# КРАЯЗНАЎЧАЯ ГАЗЕТА



№1-2
ВЕРАСЕНЬ-КАСТРЫЧНІК
2000 года

БЮЛЕТЭНЬ КРАЯЗНАЎЦАЎ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ


## ДЛЯ КАГО І ДЛЯ ЧАГО

Выданне краязнаўчага бюлетэня наспела даўно. Яшчэ тады, калі стала відавочнай нездавальняючая дзейнасць Беларускага краязнаўчага таварыства імя Т.Нарбута, ізаляванасць гурткоў і аб'яднанняў Гродзеншчыны, недастатковая праца Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі (ГКА).

Шматлікія напрацоўкі гісторыкаў, краязнаўцаў, архівістаў застаюцца набыткам вузкага кола прафесіяналаў, мала выкарыстоўваюцца ў выхаваўчай і турыстычнай рабоце, справе аховы гістарычнай і культурнай спадчыны. Узнікае сур'ёзная небяспека перарыўнасці пакаленняў краязнаўцаў, перадачы новай хвалі аматараў краязнаўчага руху напрацаванай метадалогіі, унікальных ведаў, нарэшце, успамінаў відавочнікаў драматычных падзеяў на Беларусі.

Трэба аб'яднаць нашы высілкі ў выхаванні нацыянальнай свядомасці, пачуцця «роднай хаты», неабыякавасці і адказнасці за лёс будучых пакаленняў. У гэтым бачыцца галоўная мэта краязнаўчага руху. "Краязнаўчая газета" для тых, хто цікавіцца гістарычнай спадчынай, этнаграфіяй, прыродай, літаратурай, архіўнымі звесткамі, шматнацыянальнай культурай роднага краю. Гэтыя даследванні павінны стаць набыткам шырокай грамадскасці. А колькі таленавітых людзей розных нацыянальнасцей ва ўсе часы нараджала Гродзеншчына!..

Нас акаляюць шматлікія помнікі гісторыі і культуры. Ахову многіх з іх займаецца дзяржава. Аднак не лепшы эканамічны стан краіны, нізкі ўзровень выхавання асобных кіраўнікоў і грамадзян вядуць да заняпаду і разбурэння матэрыяльных сведкаў сівой старыны. Такія факты патрабуюць абвяшчэння і практычных захадаў.

Звяртаемся да прыродазнаўцаў, біёлагаў, батанікаў, заолагаў, географаў. Трэба пашыраць прыродаахоўную дзейнасць, выяўляць, занатоўваць і прапагандаваць прыродныя цікавосткі. Патрабуе ўвагі распрацоўка новых турыстычных маршрутаў.

"Краязнаўчая газета" — выданне для кожнага грамадзяніна Гродзеншчыны.

## БУДЗЕ СТВОРАНА ЭКСПАЗІЦЫЯ

20 верасня абласная бібліятэка імя Яўхіма Карскага адзначыла 170-годдзе з дня заснавання. Гэта першая публічная бібліятэка Беларусі.

Была праведзена навукова-практычная канферэнцыя "Бібліятэка – жывая гісторыя стагоддзяў". З рэфератамі да прысутных звярнуліся Я.Жабрун, Л.Мальцава, Г.Алейнік, І.Трусаў, прадстаўнікі навуковай грамадскасці Гродна: прафесары А.Пяткевіч, В. Чарапіца, А.Майсяёнак, вядомы краязнавец, заснавальнік музея Карскага ў вёсцы Лаша Гродзенскага раёна А.Цыхун.

Прыемнай падзеяй стала рашэнне аб стварэнні пры краязнаўчым аддзеле бібліятэкі экспазіцыі, прысвечанай акадэміку Яўхіму Карскаму.

А.Дісненак

■ *АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ*

## УВАГА: КОНКУРС «ЧАЛАВЕК ХХ-га СТАГОДДЗЯ»



Гродзеншчына ўзгадавала дзесяткі асобаў, якія праславіліся сваімі здольнасцямі ў розных галінах навукі, культуры, мастацтва. Забыць гэтыя прозвішчы, значыць, захварэць на бяспамяцтва, выкрэсліць з мясцовай (і не толькі!) гісторыі слаўных людзей.

Чакаем, паважаныя чытачы, вашых водкугаў і прапаноў, вашых артыкулаў пра людзей, якія праславілі Гарадзеншчыну ў ХХ-м стагоддзі.

Першая публікацыя ў сённяшнім нумары прысвечана славутаму вучонаму Юрыю Астроўскаму (29.06.1925 – 31.12.1991).

Чалавек высокай грамадзянскай пазіцыі, Юрый Астроўскі быў гарачым прыхільнікам адраджэння беларускай культуры і гісторыі.

**(Пра акадэміка Юрыя Астроўскага чытайце на 4-й, 5-й і 6-й стар.)**

# СПРАВА ПЕРШАЙ ВАЖНАСЦІ

Прафесар Андрэй Майсяёнак — сябра праўлення Беларускага фонда культуры і прэзідыума Гродзенскага абласнога аддзялення БФК, старшыня абласной краязнаўчай асацыяцыі.

З ім наша гутарка.

**— Спадар Андрэй, іншы раз можна пачуць, што цяперашні стан абласнога кразнаўства патрабуе чарговага ўздыму. Наколькі такія меркаванні адпавядаюць рэчаіснасці?**

— Цалкам можна пагадзіцца. Пэўны застой назіраецца. Але разам з тым Гродзенская краязнаўчая асацыяцыя мае на сваім рахунку здабыткі. Пастаянна дзейнічае аргкамітэт па правядзенню рэгіянальных гісторыка-краязнаўчых канферэнцый. Яны адбыліся ў Свіслачы, Слоніме, Глыбокім (Віцебская вобласць). Выданню шэрагу матэрыялаў гэтых мерапрыемстваў паспрыяла Гродзенскае абласное таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Шмат намаганняў прыклаў старшыня гэтай установы Дзмітрый Аляшкевіч.

Адбылося некалькі краязнаўчых канферэнцый па гісторыі пабудовы і праблемах аднаўлення Аўгустоўскага канала.

**— У перыядычным дзяржаўным друку няшмат артыкулаў на тэму краязнаўства. Магчыма, няўрадавыя СМІ больш увагі звяртаюць на папулярызацыю гістарычнай спадчыны?**

— За апошнія дзесяць гадоў змяніўся і друк, асабліва рэспубліканскі. Запанавалі рынкавыя адносіны. Крыху паіншаму ставяцца да публікацыі краязнаўчых допісаў раённыя газеты. На жаль, прыпынена выданне часопіса "Свіцязь", заснаванага ў свой час старшынёй абласнога аддзялення БФК прафесарам Сяргеем Габрусевічам. Аднак з'явіўся высокапрафесійны альманах, выдадзены пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча. Серыю выданняў "Наш радавод", заснаваную ГКА ў 1989 годзе, працягвае прафесар, доктар гістарычных навук Дзмітрый Караў. Летась была выдадзена чарговая кніга.

**— Атрымліваецца, што вучоныя і навукоўцы працуюць, а моладзь пакрыху адсунулася ўбок і мала цікавіцца краязнаўствам, калі цікавіцца наогул...**

— Якраз хачу сказаць, што сучасная моладзь звяртаецца да багатай мінуўшчынай краю, неардынарных постацяў беларускіх адраджэнцаў, дзеячаў навукі і культуры розных часоў. Шмат запісана ўспамінаў людзей сталага веку Гродзеншчыны. Ствараюцца краязнаўчыя моладзевыя суполкі. Нядаўна, напрыклад, пабачыў свет бюлетэнь "Дзядзінец" – неперыядычнае выданне маладых краязнаўцаў вобласці. У апошнія дні чэрвеня на базе абласнога палаца творчасці дзяцей і моладзі пры падтрымцы Гродзенскай краязнаўчай асацыяцыі праведзена канферэнцыя маладых краязнаўцаў рэгіёна.

**— Здаецца, што краязнаўчы рух найбольш сканцэнтраваны ў Гродне. Але багатае гістарычнае мінулае маюць многія гарады і паселішчы вобласці. Дый і вёскі добра працягнуты вятрамі стагоддзяў...**

— Так склалася, што буйныя гарады становяцца цэнтрамі ў любой творчай справе. Аднак нельга гаварыць пра перавагу горада над вёскай з гістарычнага пункту гледзішча. Паўсюдна назіраюцца свае адметнасці. Важна атрымаць паведамленні пра сучаснае і мінулае жыццё Навагрудка, Ліды, Слоніма, Ваўкавыска, Ашмян, Смаргоні, даўніх мястэчак Гальшаны, Баруны, Радунь, Астрына, Жалудок, Свіцязь. Вось дзе можна разварнуцца настаўнікам, работнікам школьных музеяў, бібліятэкарам, мясцовым журналістам! Мы мяркуем неўзабаве абвясціць конкурс для падтрымкі цікавых ініцыятыў у галіне краязнаўства.

Чаму не стварыць бібліяграфічны даведнік славутых людзей Гродзеншчыны? Шмат хто з нашых аўтараў браў удзел у падрыхтоўцы матэрыялаў для гісторыка-хранікальных кніг "Памяць". Далёка не ўсё трапіла ў друк. Трэба, каб гэты дакументальны скарб не прапаў, а быў надрукаваны.

**— Для гэтага і прызначаны бюлетэнь. Цяпер справа за аўтарамі. Няхай прысылаюць свае працы. Кожнаму знойдзецца месца.**

— Я таксама на гэта спадзяюся.

**Гутарыў**
**Антон Лабовіч**



### ■ *НАМ ЗАСТАЛАСЯ СПАДЧЫНА*

Язэп Драздовіч нарадзіўся ў 1888 годзе ў засценку Пунькі Дзісенскага раёна Віленскай губерні. Станаўленне і першыя крокі яго мастацтва прыпадаюць на гады адраджэння беларускай культуры і цесна звязаны з творчай працай Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алаізы Пашкевіч і іншых.

Мастак адным з першых у беларускім мастацтве шукае вытокі гісторыі народа. Шмат вандраваў па Гарадзеншчыне, быў выкладчыкам Наваградскай гімназіі.

**На малюнку работы Язэпа Драздовіча - сядзіба сям'і Драздовічаў у засценку Пунькі (зараз Глыбоцкі раён).**

■ *КРАЯЗНАЎСТВА: ПРАБЛЕМЫ І НАБЫТКІ*

# НАСПЕЎ ЧАС ПАРАІЦЦА

Устаноўчы сход Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута адбыўся 30 чэрвеня 1998 года. Тады ж была абрана Рада таварыства ў складзе пяці асобаў – прафесара Сяргея Габрусевіча, доктара гістарычных навук Алеся Краўцэвіча, вядомых краязнаўцаў Уладзіміра Хільмановіча і Алеся Госцева ( усе з Гродна), Станіслава Судніка (Ліда). Старшынёй БКТ зацвердзілі С.А.Габрусевіча, які адначасова ўзначальваў Гродзенскае абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры і рэдагаваў рэгіянальны часопіс "Свіцязь".

На працягу 1998-2000 гадоў кожны з сяброў Рады зрабіў немалы асабісты ўклад у вывучэнне гістарычных, культуралагічных і краязнаўчых праблемаў. Аднак справа арганізацыі дзейнасці таварыства заставалася на месцы. Спадзяванае выкарыстанне базы БФК не спраўдзілася: па фінансавых прычынах страчаны памяшканні, перапынена выданне "Свіцязі".

Тым не менш, юрыдычна філіял БФК у Гродне дзейнічае і захоўвае да 2003 года ліцэнзію на выданне літаратурных і краязнаўчых твораў.

На думку прафесара Сяргея Габрусевіча, цяжкасці з рэгістрацыяй таварыства імя Т.Нарбута ўсё ж такі могуць быць пераадолены, калі сумеснымі намаганнямі сяброў будуць зроблены праекты на фінансаванне з адпаведных фондаў і мабілізаваны рэсурсы. Сам старшыня працуе над чарговым праектам на тэму "Падарожжа з Гародні ў Горадню". Плануецца даць сацыяльна-культурны партрэт Гарадзеншчыны на пачатку XXI-га стагоддзя.

Неабходна асвятляць ў рэгіянальным друку праблемы нацыянальнай культуры як фактара грамадскага жыцця, прадухіліць стварэнне беларускай нацыянальнай меншасці на Беларусі.

Наспела неадкладная размова сяброў Беларускага краязнаўчага таварыства аб лёсе таварыства, яго першачарговых справах, бачанні арганізацыйных праблем з боку немалой колькасці краязнаўчых суполак, што дзейнічаюць сёння на Гарадзеншчыне і ў іншых рэгёнах Беларусі.

Такі сход-семінар магчыма правесці ў студзені-лютым 2001 года ў горадзе Ліда. Гэтую прапанову падтрымліваюць сябры Рады, у прыватнасці, Станіслаў Суднік і Уладзімір Хільмановіч.

**"Краязнаўчая газета"**

# НАПІШАМ САПРАЎДНУЮ ГІСТОРЫЮ ВАЎКАВЫШЧЫНЫ!

Краязнаўству належыць вялікая роля ў фармаванні самасвядомасці, патрыятызму і культуры чалавека. Многае прыходзіцца спасцігаць нанова, бо мінулае беларускага народа дагэтуль падаецца тэндэнцыйна, часцяком скажона.

Мне запомніўся навукова-практычны семінар на тэму "Краязнаўства – крыніца самасвядомасці", праведзены сёлета ў Ваўкавыску. Дык вось, там гаварылася, у прыватнасці, пра кнігу "Ваўкавышчына: з гісторыі краю і лёсу людзей". Адзначалася неахайнасць аўтарскага калектыву, шматлікія арфаграфічныя і факталагічныя памылкі. Напрыклад, сцвярджаецца, што Ваўкавыск і гэты рэгіён – зямля беларуская. Тады навошта пастаянна нагадваць чытачу пра непарыўныя і трывалыя сувязі раёна з Расіяй? Без гэтага не было б Ваўкавыска ці што?..

Было каго паслухаць на семінары: дырэктара Гудзевіцкага краязнаўчага музея Алеся Белакоза, настаўнікаў і краязнаўцаў з Ваўкавышчыны Алеся Ляскоўскага і Валянціна Хмару, выкладчыка Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта Андрэя Чарнякевіча, краязнаўцаў Алеся Госцева і Уладзіміра Хільмановіча.

Адным са станоўчых вынікаў стала стварэнне Ваўкавыскага краязнаўчага таварыства. Яно будзе інфармацыйна дапамагаць мясцовым даследчыкам, займецца стварэннем банкаў дадзеных па праблемах рэгіёна, а таксама школьных і вясковых краязнаўчых музеяў.

Мы напішам праўдзівую гісторыю гэтай зямлі.

**Генадзь Семянчук,**
**старшыня Ваўкавыскага краязнаўчага таварыства, гісторык.**

# БЫЛА. ЁСЦЬ. БУДЗЕ!



Краязнаўчы актыў Зэльвы пры падтрымцы пісьменніцкай арганізацыі Беларусі ў жніўні арганізаваў чарговую ўрачыстасць, прымеркаваную да 90-годдзя з дня нараджэння выдатнай паэткі Ларысы Геніюш.

Шматлікія ўдзельнікі імпрэзы аддалі даніну павагі Ларысе Антонаўне, пабылі на месцы яе апошняга супакаення, а таксама на ўрачыстай вечарыне. Цёплыя, удзячныя словы выказалі В.Іпатава, Я.Янушкевіч, У.Мазго, М.Скобла, Ю.Голуб і іншыя.

Гледачы пабачылі мастацкую кінастужку "Птушкі без гнёздаў".

Шмат намаганняў прыклаў для арганізацыі Дня памяці Л. Геніюш зэльвенскі аргкамітэт і асабіста Юры Качук (на здымку).

**АСОБЫ НАДНЁМАНСКАГА КРАЮ**

# ПРА НАСТАЎНІКА

**На 2000-й год прыпадаюць 75-я ўгодкі з дня нараджэння выдатнага беларускага вучонага, медыка, яркага дзеяча Беларускага Адраджэння Юрыя Астроўскага. Узнікненне напачатку 90-х незалежнай Беларусі стала найлепшым увасабленнем яго мараў, веры ў светлы лёс свайго народа, падкрэсліла спеласць і мужнасць беларускай інтэлігенцыі, яе свядомы і лёсаносны ўдзел у змаганні за будучае дзяржавы і нацыі.**

Ён нарадзіўся 29 чэрвеня 1925 года ў Мінску ў сям'і беларускіх інтэлігентаў. Бацька – педагог і літаратар, выхаванец Белдзяржуніверсітэта. Маці мела прафесію акушэра-гінеколага. Юрый перажыў цяжкія гады акупацыі і ваеннага ліхалецця, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Бяда напаткала тату, у свой час дырэктара Слонімскай гімназіі. Ён быў арыштаваны органамі НКУС. За свае станоўчыя адносіны да Саюза Беларускай моладзі пацярпеў і яго сын.

Юрый закончыў у 1950 годзе медыцынскі інстытут. Будучага прафесара і акадэміка выратавалі талент і інтэлект, яго апантанасць у навуковых доследах. І тое, што над студэнтам апекаваўся "бацька беларускіх біяхімікаў і маладых навукоўцаў" дацэнт В.А.Бандарын.

Тым не менш, выпускнік Ю.Астроўскі быў размеркаваны на працу ў Полацкую санэпідстанцыю. Там выканаў і напісаў кандыдацкую дысертацыю. У 1956 годзе яго запрасілі на пасаду асістэнта кафедры біяхіміі Віцебскага медінстытута.

Праз тры гады Юрый Міхайлавіч прыехаў у Гродна, дзе заняў пасаду загадчыка кафедры біяхіміі ў толькі што створаным медыцынскім інстытуце. У горадзе над Нёманам пачаўся зорны шлях акадэміка. Па прыкладу навукова-даследчай суполкі В.Бандарына ён стварыў студэнцкае навуковае таварыства, а пазней праблемную лабараторыю. У выніку вялікай працы сёння існуе прызнаная Гродзенская біяхімічная школа, выхаванцамі якой з`яўляюцца звыш 70 дактароў і кандыдатаў навук.

Яшчэ ў 1965 годзе малады прафесар выказаў ідэю арганізацыі першай навуковай установы ў Заходняй Беларусі. Кадравым ядром павінна была стаць праблемная лабараторыя вітаміналогіі пры Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім інстытуце, а з 1970 года – Аддзел рэгуляцыі абмену рэчываў АН БССР.

Адной з падстаў арганізацыі акадэмічнага цэнтра былі распрацаваныя прафесарам Ю.Астроўскім статыстычныя дадзеныя, абгрунтоўвалася неабходнасць беларусізацыі акадэмічнай і інстытуцкай навукі, таму



**Прафесар Ю.А.Астроўскі быў ініцыятарам і арганізатарам "Гродзенскіх сімпозіумаў", першы з якіх адбыўся ў 1966 годзе. Апошні – у верасні 2000 і менавіта ў гонар стваральніка акадэмічнай школы і ўстановы Наднёманскага краю.**

**На здымку: (справа налева) прадстаўнікі трох пакаленняў айчыннай вітаміналогіі, навуковыя кіраўнікі IV-га гродзенскага сімпозіума (1977 г.) Ю. Астроўскі, Ул. Яфрэмаў, А. Майсяёнак.**

## ГАНАРЫЎСЯ СВАІМ НАРОДАМ

Публікацыя Юрыя Астроўскага «Беларусы: адзін народ і тры нацыі» адразу пасля надрукавання выклікала вялікі розгалас. Найперш крытычны. Многія папросту не зразумелі, як з дапамогай генетыкі можна «чытаць» уласцівасці чалавека ці радаслоўныя цэлых нацый. Ці можна сумясціць генетыку і гісторыю чалавецтва?

Акадэмік паспрабаваў на навучнай падставе даказаць сваю думку. Зрабіў высновы з гісторыі беларусаў, вывеў іх асаблівыя рысы адрознення ад іншых. Дадзеныя супаставіў з этнаграфічнымі вывадамі вучоных, у прыватнасці, прафесара Я.Карскага, паказаў тэрыторыю рассялення беларусаў — не толькі ўласна Беларусь, але і сумежныя вобласці Смаленскай, Бранскай і Вяліка-Лукскай абласцей, Віленшчыну, Беласточчыну і іншыя суседнія раёны.

Вядома, такое меркаванне вучонага многім не прыйшлося даспадобы. Астроўскі паказаў сябе выдатным гісторыкам і краязнаўцам. Ён свабодна аперыруе фактамі часоў рассялення славян, узнікнення плямёнаў, складанне адзінай дзяржавы — ВКЛ. Наконт самога ВКЛ пазіцыя акадэміка вельмі блізкая да перакананняў знанага беларускага даследчыка М.Ермаловіча.

Як самую складаную рэч у гісторыі вучоны вылучае рэлігію. Менавіта яна стала водападзелам паміж краінамі, якія змагаліся за валоданне нашам краем - Польшчай, Расіяй, ВКЛ.

**Сцяпан Ярашчук**

што прысутнасць прадстаўнікоў карэннай нацыі ў навуцы Беларусі была непрапарцыянальна нізкай. Да выпраўлення гэтай гістарычнай і палітычнай недарэчнасці Юрый Астроўскі звяртаўся неаднаразова.

З часам гродзенскі Аддзел АН БССР пераўтварыўся ў Інстытут біяхіміі (1985 г.). Кіраўнік установы Юрый Міхайлавіч Астроўскі быў абраны ў 1977 годзе членам-карэспандэнтам, акадэмікам (1986 г.) Акадэміі Навук. У 1978 годзе яму было нададзена пачэснае званне Заслужанага дзеяча навукі Беларусі. Распрацаваная ім канцэпцыя малекулярнай вітаміналогіі, біяхімічных механізмаў канцэрагенэзу і алкагалізму ўвасоблена ў васьмі доктарскіх і 60 кандыдацкіх працах яго вучняў. Навуковыя распрацоўкі абагульнены ў васьмі манаграфіях і 300 іншых навуковых публікацыях.

Перабудовачны час адкрыў новы прастор для апрабацыі ідэй Юрыя Міхайлавіча, раскрыццю яго светапогляду. Ён першым у рэгіёне папярэдзіў аб небяспецы наступстваў трагедыі на Чарнобыльскай АЭС. Пратэставаў супраць утойвання праўдзівай інфармацыі, патрабаваў прыняцця прафілактычных захадаў для аховы здароўя людзей.

Ён быў актыўным барацьбітом з п'янствам і алкагалізмам, заснаваў у 1990 годзе гродзенскі філіял Усесаюзнага наркалагічнага цэнтра, удзельнічаў у супрацьалкагольнай агітацыі.

Разам са сваімі вучнямі прыняў удзел у выбарчай кампаніі ў Вярхоўны Савет рэспублікі 1989-1990-х гадоў. Гэта прынесла яму вялікія непрыемнасці, моцна падарвала здароўе. Памёр Юрый Міхайлавіч ад невылечнай хваробы 31 снежня 1991 года.

Акадэмік Ю.М.Астроўскі стаў адным з заснавальнікаў ТБМ імя Францішка Скарыны ў Гродне. Удзельнічаў ва ўстаноўчай канферэнцыі, выказаў галоўную ідэю адраджэнцкай працы на Беларусі: "Не будзе нацыянальнай свядомасці – не будзе і беларускай мовы".

Сярод яго сяброў і добрых знаёмых былі Ларыса Геніюш, Зоська Верас, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк, Міхась Ткачоў і іншыя. У сценах Інстытута біяхіміі склаўся актыў грамадска-палітычнага аб'яднання "Паходня".

Акадэмік Юрый Астроўскі быў творчай, рознабакова таленавітай асобай. Ён разумеў музыку і сам валодаў інструментам. Пісаў някепскія вершы, якія пасля склалі кнігу "Душу раскрыўшы насцеж". Яго ведаюць як публіцыста. Шмат эпісталярных твораў вучонага засталіся незакончанымі. Яны прысвячаліся беларускай моладзі, медыцынскай навуцы, беларускаму Адраджэнню.

**Андрэй Майсяёнак,**
**доктар біялагічных навук,**
**член-карэспандэнт НАН Беларусі.**

# АДРАДЖЭНЕЦ З БЕРАГОЎ НЁМАНА

У 1965 годзе Юрый Міхайлавіч Астроўскі выкладаў біяхімію ў Гродзенскім медыцынскім інстытуце. Стварыў навуковы студэнцкі гурток. Сярод яго наведвальнікаў аказалася і я. Не памятаю, як так сталася, але час ад часу мы размаўлялі з вучоным па-беларуску. Калі ў 1970 годзе я пераязджала на працу ў Мінск, выкладчык падарыў мне сваю першую манаграфію "Тыямін", і таксама зрабіў подпіс на роднай мове.

За дзевяць гадоў маёй работы ў сталіцы мы часцяком сустракаліся. Юрый Астроўскі прыязджаў па справах Аддзела рэгуляцыі абмену рэчываў у прэзідыум АН Беларусі. І абавязкова заходзіў у нашу лабараторыю. Акрамя біяхімічных пытанняў, закранаў праблемы гісторыі рэспублікі, лёсу яе народа, асабліва інтэлігенцыі.

Вучоны добра ведаў беларускую літаратуру і культуру. Неяк расказаў, што яго бацька да вайны загадваў кафедрай беларускай літаратуры ў Мінскім педінстытуце. Маладыя тагачасныя паэты, яго вучні, часцяком завітвалі ў дом выкладчыка. Многіх малалетні Юрый запомніў назаўсёды. Пасля 1937 года ўсялякія сустрэчы спыніліся. Праз шмат гадоў Юрый Міхайлавіч пабачыць прозвішчы тых пісьменнікаў у асобных публікацыях, літаратурных даведніках і энцыклапедыях. Юнакоў рэпрэсавалі.

Не раз у 70-х гадах Ю.Астроўскі гаварыў пра вялікі творчы патэнцыял беларускага народа. У якасці доказаў звяртаўся да мінулага Беларусі, распавядаў пра славутых людзей, якія паходзілі з нашых мясцін, але вымушаны былі працаваць у розных краінах. Яго вельмі турбавалі праблемы набыцця беларусамі вышэйшай адукацыі на роднай мове. Ён даводзіў пра неабходнасць адкрыцця на Гродзеншчыне навуковай установы, каб для беларускіх навукоўцаў была магчымасць працаваць на Радзіме.




Калі пачалася "перестройка", Юрый Астроўскі пачаў выступаць па-беларуску перад шырокай аўдыторыяй. Так, у 1987-1988 гадах ён у перадачы абласнога тэлебачання расказваў аб справах Інстытута біяхіміі, магчымыя наступствы Чарнобыльскай трагедыі, шкодны ўплыў радыяцыі на арганізм чалавека, магчымыя шляхі папярэджання захворванняў.

Вучоны спрыяў шырокаму ўжыванню беларускай мовы ў падрыхтоўцы навуковых паведамленняў, вядзенні справаводства.

**Н.Кануннікава,**
**доктар біялагічных навук,**
**старшыня суполкі ТБМ Інстытута біяхіміі.**

## ■ З ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ ЮРЫЯ АСТРОЎСКАГА




Пісаў вершы Ю.М.Астроўскі з 1943 года і да апошніх дзён. Гэта была гаворка асаблівай, паэтычнай мовай з самім сабой. Нам цікава ведаць, чым жыў гэты неардынарны чалавек, як дух яго цягнуўся да творчасці.

Не будзем строгімі да мастацкіх вартасцяў вершаваных радкоў. Не толькі таму, што пісаў непрафесіянал. Гэта ўсё экспромты, занатаваныя часта на выпадковых кавалачках паперы, складзеныя пад уражаннем пэўных абставін, настрояў.

Вершаваныя і празаічныя радкі Ю.М.Астроўскага цікавыя значнасцю, драматызмам думак, а некаторыя і лірычнай вытанчанасцю, натуральнасцю паэтычнага бачання свету.

**Аляксей Пяткевіч,**
**прафесар Гродзенскага ўніверсітэта імя Я.Купалы, пісьменнік.**

### НА РОСАХ У ВІЛЬНІ

Ранічкай ціхай прыйшоў я на Росы.
Тут, сярод продкаў, вандроўнік не першы.
Шчыра прызнацца, тады я не ведаў,
што можа вандроўка закончыцца вершам.

Проста вось так, як у Вільні заўсёды,
час не губляў на вакзале дарэмна.
Крочыў па вуліцах без перашкоды.
Смутак будзіў гэты горад таемна.

Наша мінулае памяць згубіла.
Тут наша ўсё скамянела на плітах.
Продкаў далёкіх шукаў між магілаў,
кімсьці зняслаўленых, кімсьці забытых.

### СМАЛЕНСК

Той недалёкі час
Быў пры бацьках, пры нас –
Смаленск быў беларускаю сталіцай.
Пасля яго адкінулі ад нас
На ўсходзе ла Расеі прытуліцца.
У прымаках яе ...

Вось я сярод смалян,
Нібы сярод зямлян,
таўкуся на вакзале, ясны пане!
І размаўляюць тут
Так, як мой родны кут,
Вясковы люд і нават гараджане...
Ну, ведама – прымак.

### НЕ АБ ТЫМ

Не аб тым ідзе гаворка,
што нам соладка, што горка.
Не пра холад, не пра голад,
а пра тых, хто духам молад.

Той і слухае, і бачыць,
калі трэба, перайначыць
гэты вэрхал навакольны, —
ці ён кепскі, ці ён добры...

Ці ў нязгодзе ён з законам,
з нашай праўдай, з нашым плёнам,
ці далёка ён за светам,
Засакрэчаны сакрэтам...

# РОЗДУМЫ

***

Нашу зямлю раздзіралі і дзялілі ў XVII- XIX стагоддзях, гандлявалі па частках у грамадзянскую вайну, аддалі Вільню ЛітССР, хаця літоўцы там былі ў меншасці, кінулі пад танкі Гітлера, а затым ізноў перамолвалі снарадамі і бомбамі ў 1943-1944 гады. Не пытаючыся, забіралі нашых дзяцей і кідалі іх пад кулі ў Венгрыі, Чэхаславакіі, В`етнаме, Афганістане. Дзеля якіх нацыянальных інтарэсаў тварыўся ўвесь гэты антынародны здзек, каму ў нас патрэбны далёкія і заморскія тэрыторыі?

***

Людзі не гаспадары краіны, а дзяржаўны інвентар, за якім патрэбны нагляд толькі настолькі, каб ён быў справўны, прадукцыйны і паслухмяны. Усё астатняе нікога не хвалюе.

***

Кожную ноч незваротна знікалі нашы суседзі, нашы сябры, старыя камуністы, дзеці рабочых і сялян, простыя і сумленныя працаўнікі, вінаватыя толькі ў тым, што былі сумленнымі людзьмі, а не сляпымі падхалімамі. Яны былі беларусамі і гэтага было дастаткова, каб абвінаваціць іх у нацыяналізме. Хто адкажа за гэтыя дзесяткі тысяч жыццяў? Чаму гэтыя злачынствы замоўчваюцца? Яны вартыя Нюрнбергскага працэсу.

***

Нейтральны пояс на Захадзе – самая вартая гарантыя ад мілітарысцкіх хвароб Расіі, абарона ад яе імперыялістычнага мінулага і гарантыя мірнага будучага.

***

Больш мы не будзем палігонам для высвятлення адносін Расіі з Еўропай. Мы не будзем ваяваць самі, мы раздзелім забіяк зонай міру і спакою. Незалежнасць, нейтралітэт, свабода, мірнае будаўніцтва і дабрабыт народа - вось нашы галоўныя намеры.

***

Для распаўсюджання праўды выкарыстоўвайце ўсе сродкі, уключаючы дзяржаўнае выдавецкае і любое друкарскае абсталяванне, бо ўсё яно – народная маёмасць і ўсё зробленае на ім (у тым ліку праўдзівая інфармацыя!) – належыць народу.

■ *АДРОДЗІМ МІНУЎШЧЫНУ*

# МЕЦЬ ПАМЯЦЬ, НЕ ЗАБЫВАЦЬ

Гродзенскі край з'яўляецца радзімай многіх выбітных гістарычных асобаў, якія маюць вялікія заслугі перад Беларуссю, Літвой, Польшчай. Такімі ёсць нашы землякі Тэадор Яўхімавіч Остык-Нарбут, яго выдатныя дзеці Людвік, Францішак, Баляслаў, Станіслаў, Тэадора. Трэба ўспомніць таксама археолага і этнографа з вёскі Нача Вандаліна Шукевіча.

Розны, аднак вельмі каштоўны ўклад зрабілі гэтыя асобы ў навуку. Многія з іх займаліся рэвалюцыйнай дзейнасцю, імкнучыся вызваліць просты народ ад царскага прыгнёту.

Т.Я Остык-Нарбут (1784-1864) жыў і працаваў у маёнтку Шаўры былога Лідскага павета Віленскай губерні. Цяпер гэта в. Шаўры Нацкага сельсавета Воранаўскага раёна. Ён аўтар "Старажытнай гісторыі літоўскага народа" у дзевяці тамах, стваральнік "Літоўскай міфалогіі". Вылучаўся здольнасцямі ў ваеннай навуцы, быў афіцэрам, інжынерам, дапытлівым краязнаўцам, вопытным гаспадарнікам, патрыётам. Пахаваны ля Нацкага касцёла.

Легендарнай асобай быў ягоны сын Людвік Тэадоравіч. Былы кадравы афіцэр, ён адным з першых адгукнуўся ў 1863 года на заклік Кастуся Каліноўскага "Да зброі!". Узначаліў створаны атрад інсургентаў. Кіраваў паўстанцамі Лідскага павета, сярод якіх былі беларускі паэт і празаік Францішак Багушэвіч, вядомы мастак Міхал Эльвірк Андрыёлі. Людвіку актыўна дапамагалі родны брат Баляслаў, сястра Тэадора. У выніку здрады змагар заўчасна загінуў. Пахаваны ў в. Дубічай, у дзесяці кіламетрах ад Начы.

Малодшы сын Т.Я.Остык-Нарбута Станіслаў (1853-1926) стаў доктарам медыцыны. Працаваў у Браславе. Цяпер у Браслаўскім гісторыка-краязнаўчым музеі яму прысвечана асобная экспазіцыя.

Вандалін Шукевіч (1852-1919) – знакаміты археолаг, этнограф, публіцыст, член-карэспандэнт Кракаўскай акадэміі навук. Жыў таксама ў вёсцы Нача Лідскага павета.

У канцы 80-х гадоў XIX стагоддзя прыступіў да археалагічных даследванняў. Аб'ектамі яго пошукаў сталі грунтовыя і курганныя могільнікі ля в. Нача, Пузелі, Апонаўцы, Тоўцішкі, Сабакінцы, Дварчаны, якія знаходзяцца на тэрыторыі сучасных Воранаўскага і Шчучынскага раёнаў.

Вучоны першым з беларускіх археолагаў даследаваў дзесяткі курганаў і каменных магіл тыпу жальнікаў XIII-XIV стагоддзяў. Большая частка знойдзенага ім трапіла ў музеі Варшавы, Вільні, Кракава, Масквы, Санкт-Пецярбурга. В.Шукевіч напісаў гістарычныя артыкулы і нарысы "Каменныя курганы ў Лідскім павеце", "Двары, замкі, палацы", "Старажытныя каралеўскія лясы ў Літве", "Нарысы аб Белай Русі" і інш. Даследчык запісаў шмат мясцовых абрадаў, паданняў, песень, прымавак. Усё гэта абагульнена ў трох фальклорна-этнаграфічных працах. Яго гуманістычная жыццёвая пазіцыя яскрава выявілася ў шматлікіх публікацыях таго часу.

Вандалін Шукевіч пахаваны ў сямейнай капліцы каля Начы.

Прадстаўнікі знакамітых родаў Остык-Нарбутаў і Шукевічаў парадніліся ў 1907 годзе, калі ўнук Тэадора Остык-Нарбута, таксама Тэадор, ажаніўся з дачкой В.Шукевіча Вандай-Алінай.

Мясцовымі і гродзенскімі краязнаўцамі зроблена нямала, каб ушанаваць памяць славутых землякоў. Аднак не стае сродкаў на аднаўленне напаўразбуранай капліцы Шукевічаў. Патрабуе рамонту ці замены агароджа на магіле "гісторыка Літвы" Т.Я.Остык-Нарбута. У належны стан трэба прывесці пахаванні яго жонкі і сына Баляслава, пахаваных у Шаўрах.

А галоўным, лічу, неабходна стварыць музей Остык-Нарбутаў і Шукевіча ў Начы. Гэта агульнапрынятая норма ў свеце: ствараць музеі на малой радзіме адметных асобаў. А нас такіх людзей цэлае сузор'е. Мясцовыя ўлады стрымана адрэагавалі на пісьмовыя звароты нацкай інтэлігенцыі з просьбай дапамагчы ў вырашэнні азначаных праблем. Але затое з Савета Міністраў атрыманы абнадзейваючыя адказы.

Зараз я збіраю матэрыялы, якія маглі б стаць экспанатамі музея. Прашу ўсіх, хто зацікаўлены, дапамагчы мне ў гэтай справе.

**Уладзімір Руль.**
**Воранаўскі раён, в. Нача.**
**Тэл. 74-4-87.**

■ *НОВЫЯ ВЫДАННІ*




# "ДЗЯДЗІНЕЦ" – ГУЧЫЦЬ ГОРДА!

У першым нумары краязнаўчага бюлетэня Гарадзеншчыны "Дзядзінец" пазначана, што на старонках "знойдуць сваё месца й Мінуўшчына, і Сучаснасць, і Будучыня нашага агульнага Краю".

Пад рубрыкай "У летапіс" змешчана бягучая краязнаўчая інфармацыя. Надрукаваны праблемны допіс аб размежаванні ў былой дружнай суполцы "Дзедзічы". На жаль, хлопцы разыйшліся з-за рознага бачання яе дзейнасці. Некалькі матэрыялаў прысвечана далёкім і блізкім гістарычным падзеям.

Неперыядычнае выданне з часам можа стаць прыкметным бюлетэнем для краязнаўцаў і аматараў даўніны, калі ім займацца сур'ёзна і адказна. Рэдагуе газету Валеры Руселік.

Адрас для карэспандэнцый: а/с 101, Горадня, 230020, Беларусь.

**Сцяпан Ярашчук**

■ *ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ КРАЯЗНАЎЦЫ*

## НАВАГРАДСКІЯ ЧЫТАННІ

28 кастрычніка 2000 года яны праводзіліся ў сёмы раз. Цяпер разглядалася праблема "Навградчына на мяжы тысячагоддзяў: здабыткі і страты". Арганізатарамі мерапрыемства сталі раённы краязнаўчы музей і дом-музей Адама Міцкевіча.

Прысутныя заслухалі звыш 15 дакладаў і паведамленняў. Сапраўдным адкрыццём для наваградчанаў былі матэрыялы В.Чамярыцкага аб невядомым лацінамоўным выданні пра Навагрудак (1751 г.).

Надзеяй былі прасякнуты развагі А.Бембеля пра лёс беларускай мовы.

**Тамара Вяршыцкая.**
**г. Наваградак**

## КРАЯЗНАЎЧЫЯ АБ'ЯДНАННІ

Ужо больш года працуе Іўеўская раённая арганізацыя краязнаўцаў, якая аб'ядноўвае больш 40 зацікаўленых асобаў з Іўя, Юрацішак, Геранёнаў і іншых мясцовасцей рэгіёна.

Галоўным клопатам краязнаўцаў з'яўляецца стварэнне краязнаўчага музея і летапісаў населеных пунктаў.

Актыў краязнаўцаў спалучаны Радай, у складзе якой Валянцін Урублеўскі, Іван Говар, Валянціна Завадская, Міхаіл Кузьміч, Чэслава Куніцкая, Яўгенія Макуцэвіч, Антон Піліпчык, Іван Пракопчык (старшыня Рады), Алена Смаленічэнка, Жанна Шабановіч (сакратар).

У памяшканнях бібліятэк вёсак Ліпнішкі, Геранёны, Суботнікі, Юрацішкі, Дайліды створаны летапісы сваіх паселішч. У гэтым вялікая заслуга настаўнікаў мясцовых школаў.

**Галіна Завадская,**
**намеснік дырэктара Іўеўскай**
**цэнтральнай раённай бібліятэкі**



## ЖЫВЕ Ў БЕЛАСТОКУ, А ЎПАДАБАЎ ГРОДНА

У час сёлетняга 3-га Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур была арганізавана выстаўка работ фотамастакоў, прысвечаная гродзенскім помнікам старажытнасці.

Звярнула на сябе ўвагу творчасць Хенрыка Рагазінскага з Беластока – унікальная з'ява ў польскай і еўрапейскай фатаграфіі. Ён ужывае крышталі смалы афрыканскай акацыі для самаробнай фотаэмульсіі.

Спадар Хенрык шмат здымае старыя вёскі, архітэктуру гарадоў, у тым ліку Гродна. Пра гэта нагадваюць яго графічныя паштоўкі.

На здымку Генрыка Рагазінскага лямус у былым Брыгіцкім кляштары ў Гродне.

**Вольга Мінчык**

## ХАТНІ МУЗЕЙ ІВАНА БУЙКО

Наш раён знаходзіцца на перасячэнні галоўных шляхоў Заходняй Беларусі. Праз яе тэрыторыю часцяком праносіліся ваенныя віхуры. Шмат краязнаўчых матэрыялаў страчана, вывезена з краю. Аднак тое-сёе можна знайсці. Трэба папрацаваць з насельніцтвам.

Наш краязнаўца Іван Мечыслававіч Буйко стварыў свой хатні музей. Сабраў кнігі, розныя дакументы. Гэтаму музею можа пазайздросціць любы школьны музей. Вось якім трэба быць адданым сваёй справе чалавекам!

**Іван Пракопчык,**
**старшыня Рады**
**Іўеўскай раённай**
**краязнаўчай арганізацыі.**

## "СЛОНІМСКІ КРАЙ" – КРАЯЗНАЎЦАМ

Вядомы папулярызатар гісторыі са Слоніма Сяргей Ёрш здабыў яшчэ адзін клопат. Дзякуючы яго намаганням пабачыў свет часопіс "Слонімскі край". Задумку падтрымала абласное грамадскае аб'яднанне "Ратуша".

Цяпер на старонках часопіса будуць змяшчацца шматлікія працы па гісторыі, краязнаўству, геаграфіі рэгіёна. Першы нумар пацвердзіў намер выдаўцоў рэгулярна звяртацца да славутых імёнаў землякоў. Змешчаны апавяданні аб патрыётах Хведары Данілюку, Сяргею Хмары, паэтах Гальяшы Леўчыку, Анатолю Іверсе.

**Галіна Апанасевіч**

Бюлетэнь «Краязнаўчая газета»

Выдаецца на беларускай мове. На правах унутранай дакументацыі распаўсюджваецца бясплатна. Адрас: 230023 г. Гродна, п/с 22.

Наклад 299 асобнікаў. Адказны за выпуск Сцяпан Арашчук. Дызайн і вёрстка Адам Кір'яцкі

Бюлетэнь дабрачынна надрукаваны ГАГА «Ратуша» пры падтрымцы фонда «Альянс Каунтэрпарт», камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі і Нацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША)